# АБЫ ЛЯГЧЭЙ ДЫ ХУТЧЭЙ

Калі гаварыць аб прапагандзе беларускай музыкі, дык радыё займае тут адно са значных месц. Усё лепшае, створанае беларускімі кампазітарамі, гучыць у эфіры.

За мінулыя два гады фанатэка радыё папоўнілася новымі і раней напісанымі творамі. Сярод іх — Трэцяя сімфонія Я. Цікоцкага і Другая — А. Багатырова, Першая—Ул. Чараднічэнкі і Шостая—Р. Пукста, сімфанічная сюіта «Песні міру» Ул. Алоўнікава і кантата «Ленін» Г. Кузняцова, сімфанічныя паэмы — «Вечна жывыя» Г. Вагнера і «Радасны шлях» Д. Камінскага.

Многа новых праграм запісалі нашы выдатныя калектывы — Акадэмічная дзяржаўная харавая капэла і Народны ансамбль песні і танца. На жаль, радзей запісваецца аркестр народных інструментаў.

Вялікім здабыткам для радыё з'явіліся оперы, якія не ідуць на сцэне — «У пушчах Палесся» Багатырова і «Машэка» Пукста. Спіс новых запісаў можна намнога павялічыць імёнамі маладых выканаўцаў опернага тэатра, філармоніі, кансерваторыі, музычнага вучылішча і г. д. Рамансы, песні, хоры беларускіх кампазітараў часта гучаць у выкананні салістаў і хору Беларускага радыё, у запісу шматлікіх самадзейных калектываў. Такім чынам, радыёслухач мае магчымасць шырока знаёміцца з беларускай музыкай. Тое, што многія творы беларускіх кампазітараў знайшлі дарогу да слухача, відаць са шматлікіх пісьмаў слухачоў. Радуюць іх цёплыя водгукі і заяўкі, якія паступаюць на выкананне твораў Туранкова, Пукста, Алоўнікава і іншых кампазітараў, радуе жаданне пазнаёміцца глыбей з гісторыяй развіцця беларускай музычнай культуры. Таму шырокую папулярнасць заваяваў цыкл перадач «Вечары беларускай музыкі», у якіх не толькі расказваецца пра стварэнне нацыянальнай культуры, але гучыць народная і прафесіянальная беларуская музыка.

Усё гэта ў пераважнай большасці падаецца ў механічным запісу. Слухачы звычайна не адчуваюць яго «механічнасць», бо тэхніка і выканаўчае майстэрства ўвогуле такія высокія, што да слухача даходзіць бы то «жывая» музыка, бы то «жывы» голас.

Тым не менш не можна яшчэ сказаць, што ўсе нашы запісы высокай якасці і запісваецца ўсё, што мае цікавасць. Рэпертуарная камісія музычнай радыёрэдакцыі яшчэ даволі часта адхіляе некаторыя запісы за нізкую якасць выканання. Але калі гэта здараецца з капэлай, або з Народным ансамблем, дык пытанні вырашаюцца без творчых кампрамісаў. Гэтыя калектывы і іх кіраўнікі, валодаючы высокім майстэрствам выканання, заўсёды імкнуцца павысіць яго. таму ахвотна згаджаюцца на перазапіс.

Горш. калі гэта здараецца з сімфанічным аркестрам Белдзяржфілармоніі. У такіх выпадках кіраўніцтва аркестра абвінавачвае ўсіх, акрамя сябе. Праўда, што рэспубліканскае радыё яшчэ не мае гукарэжысёра — тонкага майстра сваёй справы, які б свабодна валодаў партытурай, карыстаўся ёю і мог абгрунтаваць свае патрабаванні. Пытанне аб выхаванні гукарэжысёра высокай кваліфікацыі зараз вырашаецца. Але на радыё ёсць вопытныя гукарэжысёры — В. Уладзіміраў, Б. Шангін, Я. Зайчык які зрабілі вельмі многа. Можна назваць нямала высакаякасных запісаў, праведзеных імі з тым жа сімфанічным аркестрам. Але больш трэба гаварыць пра тое, як ставіцца да запісу сімфанічны аркестр філармоніі.

Наша грамадскасць ужо не раз дакарала гэты аркестр за тое, што творы беларускіх кампазітараў гучаць у канцэртах філармоніі рэдка : не ўсе лепшыя, і рыхтуюцца гэтыя творы дрэнна, часам з адной-дзвюх рэпетыцый. Можна прыгадаць, як неахайна прагучала сімфанічная паэма «Вечна жывыя» Г. Вагнера, на якім нізкім узроўні былі выкананы ўрыўкі з «Сюіты-фантазіі» М. Аладава на яго юбілейным вечары.

Такія прыклады можна памножыць. Высветлілася і прычына такой неахайнасці. У галоўнага дырыжора аркестра В. Дуброўскага мала часу для працы над праграмамі. Ён амаль увесь сезон на гастрольных паездках. Акрамя таго, кіраўніцтва філармоніі ставіцца да запісу беларускай музыкі для радыё, як да крыніцы, з якой можна чэрпаць сродкі для выканання свайго фінансавага плана. І менш за ўсё яно турбуецца аб якасці запісу, які патрабуе папярэдняй затраты часу на рэпетыцыі. Таму часта дырэкцыя філармоніі пытаецца па тэлефоне: «Што яшчэ мы можам вам запісаць, але не пазней чым заўтра—паслязаўтра?» і любую праграму аркестр хоча запісаць за адзін раз. Пасля запісу В. Дуброўскі звычайна мала цікавіцца вынікамі, бо ў яго зноў такі не хапае для гэтага часу.

І такая паспешлівасць стала сістэмай. Яна перашкаджае займацца неабходнай, сапраўды прафесіянальнай апрацоўкай твораў і іх высакаякасным запісам, бо аркестр прыходзіць на запіс проста непадрыхтаваным. Так было, напрыклад, на запісу кантаты М. Аладава «Сціплы і просты» і яго «Сюіты-фантазіі», якія запісваліся ў пажарным парадку. І зноў толькі таму, што дырэкцыя філармоніі не дала аркестру неабходнага часу на рэпетыцыі. Запіс кантаты быў недабраякасны з прычыны дрэннай ігры аркестра. Гэтай жа думкі была і рэпертуарная камісія, у склад якой уваходзяць віднейшыя кампазітары і музыказнаўцы. Тым не менш дырэкцыя філармоніі адхіліла ўсялякія прэтэнзіі, абвінаваціўшы ва ўсім кампазітара і хор радыё. З запісам «Сюіты-фантазіі» паўтарылася ўсё, з той толькі розніцай, што рэпертуарная камісія прымусіла такі дырыжора і аркестр перапісаць бракаваныя месцы (а іх было многа). І на гэты раз цяжка было даказаць В. Дуброўскаму, што ў радзе месц аркестр гучыць фальшыва і эмацыянальна невыразна.

Час пагаварыць пра тое, што наш адзіны ў рэспубліцы сімфанічны аркестр не імкнецца да авалодання высокім выканаўчым майстэрствам. Пры ўсім яго вялікім практычным вопыце ён не ўмее выконваць твораў Гайдна, Моцарта, Бетховена (прыгадаем выкананне Дзявятай сімфоніі). У праграмах не гучаць сімфоніі Шуберта, Шумана, Мендэльсона і мноства іншых твораў, якія з'яўляюцца лепшай школай прафесіяналізму, пасля працы над якімі аркестр можа цікава выконваць любыя творы савецкіх кампазітараў. Толькі на класіцы можна распрацаваць дасканалы лад і ансамбль. Але гэтаму вельмі перашкаджае пагоня за вонкавым эфектам, за ўяўным монументалізмам. Магчыма, кіраўніцтву філармоніі варта паставіць пытанне аб празмернай перагрузцы аркестра і ўпарадкаваць планіроўку праграм. Тады і беларуская музыка зойме сваё належнае месца.

Калі ж казаць пра запіс беларускай, ды і не толькі беларускай музыкі для радыё, дык кіраўніцтва філармоніі павінна рэзка змяніць свае адносіны да гэтай вельмі важнай справы. Запіс можна праводзіць толькі ў тым выпадку, калі аркестр добра адрэпеціраваў твор, выканаў усе ўказанні аўтара.

Усе іншыя калектывы так і робяць, а сімфанічны аркестр сам для сябе зрабіў выключэнне. Таму запісы ў яго выкананні гучаць іншы раз не на высокім узроўні.

**В. СІЗКО,**
**мастацкі кіраўнік музычнага вяшчання Беларускага радыё.**

# ЦЯПЛО СЭРЦА



## Прывітанне юбіляру

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР паслала А. Астрэйку прывітанне, у якім гаворыцца:**

**«Дарагі Анатоль Пятровіч!**

**Мы, твае сябры і паплечнікі па літаратурнай працы, горача вітаем, ад усяе душы віншуем цябе, аднаго з таленавітых нашых паэтаў, з 50-годдзем з дня твайго нараджэння.**

**З юнацкіх год праз усё жыццё спадарожнічае табе роднае паэтычнае слова. Яно зрабілася тваёй песняй і зброяй. У векапомныя дні Вялікай Айчыннай вайны ты ўсе свае сілы паэта аддаваў свяшчэннай справе — барацьбе за свабоду і незалежнасць нашай маці-Радзімы. Цябе двойчы з радасцю сустракалі на гераічнай беларускай зямлі народныя мсціўцы як свайго партызанскага паэта. Твае сатырычныя вершы трапна білі па ворагах, натхнялі партызан на подзвігі.**

**У пасляваенныя гады зрабіліся далёка вядомымі твае задушэўныя вершы і песні. Яны дапамагаюць нашым сучаснікам прыгожа жыць і працаваць.**

**Жадаем табе, дарагі Анатоль Пятровіч, добрага здароўя, натхнёнай радаснай працы, новых песень і кніг!»**

Анатоль Астрэйка прыйшоў у паэзію ў канцы 20-х гадоў.

Даваенныя вершы яго, сабраныя ў зборніку «Слава жыццю» (1940), — светлыя і жыццярадасныя. Паэт услаўляе веліч і сілу савецкага народа, гераізм воінаў Савецкай Арміі, радасць стваральнай працы і «нашай зямлі маладосць».

Многа было ў паэта на першым часе вершаў рытарычных, а іншы раз і пераймальных, як, скажам, «Праводзіны на граніцу». Далёкай ад дасканаласці была паэма «Героі Хасана» — пра мужнасць савецкіх воінаў у барацьбе з японскімі самураямі. Паасобныя добрыя строфы і трапныя паэтычныя дэталі не маглі выратаваць у цэлым недасканалую ў мастацкіх адносінах першую спробу паэта ў буйным жанры.

У апошнія перадваенныя гады ў А. Астрэйкі з'яўляюцца моцныя. па-мастацку дасканалыя творы, напісаныя рукой майстра. Рыторыка саступіла месца задушэўнай размове з чалавекам, размове. якая вядзецца проста і стрымана.

У лепшых перадваенных вершах А. Астрэйкі выявіліся вострае адчуванне сучаснасці, веданне жыцця і патрэб народа, майстэрства творча асэнсоўваць народна-паэтычную вобразнасць. Вершы цыкла «Уз'яднанне» (1939), «Дуб», «Камень» са зборніка «Слава жыццю» (1940) сведчылі, што ў беларускую літаратуру прыйшоў самабытны талент.

Шчыра, без усякай прэтэнцыёзнасці, паэт сказаў пра сябе: «Свайго сэрца цяпло я людзям панясу». Яркі доказ таго, што гэтыя словы не засталіся дэкларацыяй — створаныя паэтам у гады вялікага і грознага змагання народаў Савецкага Саюза з нямецка-фашысцкімі захопнікамі кнігі вершаў «Слуцкі пояс» (1943) і «Крамлёўскія зоры» (1945).

Астрэйка быў непасрэдным удзельнікам барацьбы з ворагам, сам бачыў і перажыў усё, пра што пісаў.

Гора народа пякуча паліць паэтава сэрца.

Ад гора горкага
Я цёмным стаў.
Ну, чым я памагу малой
дзяўчынцы?
Я ж сам таксама круглы сірата.
Брыду далей ад смерці
па гасцінцы...

Яго вершы, насычаныя дзейснымі заклікамі да барацьбы, побач з палымянымі творамі Я. Купалы і Я. Коласа, К. Крапівы і А. Куляшова, П. Броўкі і М. Танка, П. Панчанкі і іншых, друкаваліся ў дні вайны ў «Партызанскай дубінцы», агітплакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну» і ў газетах, якія выдаваліся ў партызанскіх атрадах.

У вершах А. Астрэйкі ваеннага часу адлюстраваны тыповыя рысы характару беларускага народа, мужнасць і гераізм савецкіх людзей. Ён ганарыўся, што «ніхто сумленны з беларусаў не быў ні здраднікам, ні трусам».

Суровыя будні партызанскага жыцця паказаны паэтам у такіх вершах, як «У добры час», «Зорны шлях», «Мой запавет», «Мой будан», «Наш двор», «Лясныя агні» і інш. Паэт знаходзіць дакладныя, пераканальныя словы, якія кранаюць шчырасцю і непасрэднасцю: «І роўна дзелім між сабой мы і час змагання і спачын. Патронаў жоўтыя абоймы і партызанскія харчы».

На вайне не зачарствелі душы людзей, хоць і ходзіць прымаўка, нібы «сэрцы камяніць вайна». «То ўсё хлусня, то ўсё мана, — усклікае паэт, — бо час душу не ўкрыў жарствой...» Лірычны герой А. Астрэйкі ўмее любіць і цаніць хараство навакольнага свету.

Калі «адгрымелі бітвы і пажары, што траслі наш край, як гром», народу нашаму спатрэбіліся новыя, мірныя песні. «Каб зноў жыццё сваё ўпрыгожыць — за працу возьмемся хутчэй», — заклікае паэт у адным з вершаў. Гэтым бадзёрым матывам прасякнута кніга «Добры дзень» (1948), у якой паэтызуецца праца савецкіх людзей — кавалёў свайго шчасця.

Паэт знаходзіць свежыя, яркія паэтычныя вобразы: сталь кладзецца на кавадла «разморанай, пакорнай», а пад ударамі молата з яе «іскры пырскаюць, як пасмы зор» («У кузні»). Чалавеку працы прысвечаны вершы «На трасе», «Каспійка», «Незвычайны пешаход», «Бацька і сын» з раздзела «Стэпавы скарб», які змешчаны ў кнізе «Зямля мая» (1952), «Выезд у поле», «Янку Купалу», «Раніца на аўтазаводзе».

З твораў А. Астрэйкі апошняга часу звяртаюць на сябе ўвагу вершы «Няпраўда, што сэрца старэе», «Ландышы», «Старая казка», «Такое ж сонца і над Сожам», «Радзіме» (зборнік «Песня дружбы», 1956 г. і кніга выбранага «Бацька мой Нёман», 1961). Ад гэтых твораў вее радасцю жыцця, маладосцю, гарачай любоўю да Радзімы, народа.

Няпраўда, што сэрца старэе,
Што б'ецца не гэтак штогод,
Што з часам не так палымнее,
Што ў сталасці нашай цішэе
Надзеяў і думак палёт.
Са сталасцю болей жаданняў,
Высокіх акрэсленых мэт.
У поўдзень і сонцава ззянне
Спякотней, звычайна, як раннем,
І лашчыць, і цешыць, сусвет.

Астрэйка піша не толькі для дарослых. У яго ёсць добрыя, шчырыя творы і для дзяцей. Лепшы з іх — паэма «Прыгоды дзеда Міхеда», напісаная ў гады вайны.

Народна-песенны лад паэзіі А. Астрэйкі даў магчымасць кампазітарам пакласці многія яго вершы на музыку. Палкія, шчырыя песні «Нёман», «Песня пра Заслонава» і іншыя добра вядомы савецкім людзям. Творы Астрэйкі друкуюцца і за мяжой, у прыватнасці, яны перакладзены на кітайскую мову.

Перачытваючы створанае Астрэйкам, яскрава бачыш яго самабытнае паэтычнае аблічча. Размова паэта з чытачом поўная глыбокіх думак і перажыванняў.

Паэт не спыняецца на дасягнутым — «слова новае шукае аб светлай долі і жыцці...»

Пажадаем яму новых творчых поспехаў!

**І. РАЛЬКО.**

**Анатоль АСТРЭЙКА**

**А. Астрэйка нядаўна вярнуўся з творчай камандзіроўкі на Урал. Назіранні над жыццём і працай шукальнікаў уральскіх скарбаў і шахцёраў, каменячосаў і сталявараў леглі ў аснову вялікага паэтычнага цыклу, два вершы з якога мы друкуем сёння.**

## НАШ ПАБРАЦІМ

**Я многа вестак ведаў аб Свярдлоўску.**
**Здзівіў мяне, на яве ўразіў ён.**
**І вось сягоння шчыры і сяброўскі**
**Яму ад Мінска я прывёз паклон.**

**Прасторныя і вуліцы і плошчы,**
**Бульвары ў зелені, і кветкі клумб...**
**Стаіць над горадам вясёлы пошчак,**
**І не злічыць вакол заводскіх труб.**

**Ён дыша, ён пяе, ён славіць працу,**
**І славім мы яго здабыткі ўсе.**
**Свярдлоўскам нельга нам не захапляцца —**
**Увесь ва ўральскай дзікай ён красе.**

**Твае, Урал, каменні-самацветы**
**Гараць на вежах вечнага Крамля.**
**Ты ў срэбра, золата, у сталь адзеты,**
**Табою ганарыцца ўся зямля.**

**У час вайны суровай і крывавай**
**Каваў ты зброю воінам сваім.**
**І мы фашызм перамаглі са славай**
**Тваёй бранёю, шквалам агнявым.**

**Залечвалі свае б мы доўга раны,**
**Сваю зямлю, што вораг здратаваў,**
**Каб не Урал, наш пабрацім аддany,**
**Руку нам дапамогі не падаў.**

**Наш родны Мінск расцвіў красой нябачанай,**
**Палеткі звоняць золатам пшаніц.**
**Табе, Свярдлоўск, табе, Урал, мы ўдзячны**
**За ўсю красу сваю, за ўсплёск зарніц.**

**За ўсе палацы нашы і заводы,**
**І за варштаты і за твой метал.**
**Прымі ж падзяку ад майго народа,**
**Стальны асілак, залаты Урал.**

## УРАЛЬСКІЯ ЗАКАТЫ

**Вось гэта, браце, дык закаты**
**Між казачных уральскіх скал!**
**Бяры каўшы, бяры лапаты**
**І з воблакаў зграбай метал!..**

**За дзень, нібы ў мартэннай печы,**
**Расплавіла іх сонца так,**
**Што, млявыя, яны пад вечар**
**Гатовы пацячы ў латак.**

**Спяшайся, покуль не астылі**
**Яны ў нябеснай вышыні,**
**Пакуль вятры не патушылі**
**Хмурынак дзіўныя агні.**

**Прыходзіць ноч. Выходзяць зоры**
**На неба сінія лугі,**
**Каб зноў уральскія пасторы**
**Прыбраць у колер дарагі.**

# У ДАДАТАК ДА АФІЦЫЙНАГА ВІНШАВАННЯ

Было гэта ў кастрычніку 1948 года. Якраз тады пасля надрукавання ў «Полымі» маіх баек я атрымаў выклік на нараду маладых пісьменнікаў у Мінск.

Стаю я на ганку Дома партыйнай асветы (цяпер там філармонія), дзе тады праходзіла нарада. Раптам чую:

— Ну, здароў, байкароб! — нехта пляснуў мяне па плячы, — будзем знаёміцца — Астрэйка...

Я падняў вочы. Ля мяне стаяў чалавек прыблізна майго росту і ўзросту.

— А мы з вамі і раней сустракаліся! — сказаў я яму.

— Дзе? Калі? — здзівіўся Астрэйка.

Я ў той жа момант працытаваў:

І сполах цела пранізаў.
Мільгнуўся твар ёй незнаёмы.
Ды раптам выпала сляза:
Звязда свяцілася над шлёмам.

— Так! — задуменна сказаў Астрэйка. — Мой верш «Маці». 1939 год...

Я даўно пазнаёміўся з вершамі паэта. І каб успомніў, калі прачытаў яго першы радок, то гэта і была б дата першай сустрэчы.

Мне часта даводзілася разам з Астрэйкам выступаць перад чытачамі. Я захапляюся ягонай лірыкай. Але хачу і папракнуць паэта, не зважаючы на ягоныя пяцьдзесят год: ён сябе не лічыць гумарыстам і тым самым, можна сказаць, паклёпнічае сам на сябе. Гумару ж у яго столькі, што хапіла б на дзесяць іншых з тых, што лічаць сябе гумарыстамі ад валасоў да пят. Адзін «Дзед Міхед» ужо сведчыць аб гэтым. Я летась ездзіў у Запаляр'е, сёлета быў у Забайкаллі. І ўсюды я заўсёды ў дапаўненне да сваіх вершаў чытаў урыўкі з «Прыгод дзеда Міхеда». І здорава атрымоўвалася.

Вытокі астрэйкавага гумару — у жыцці. У час вайны яму сэрца падказала быць там, дзе яму і належала быць, — у народзе. Астрэйка чуў, разумеў партызанскі фальклор і ўзнімаў яго на паэтычную вышыню, творча пераасэнсоўваючы. Не выпадкова ж ён быў пры нараджэнні нашага сатырычнага часопіса «Вожык», які ў грозны для нашай краіны час называўся «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Я хачу закончыць сваё прывітальнае слова ў дадатак да віншавання такімі радкамі

**Паўвека—не жарты,**
**Але й не скандал.**
**З гадамі не варта лічыцца,**
**Калі яшчэ ёсць**
**І ў сэрцы запал**
**І порах**
**У парахаўніцы.**

**А ў сэрцы тваім,**
**Аднагодак ты наш,**
**Запалу заўсёды багата.**
**Граміў жа**
**Няўрымслівы твой карандаш**
**Фашыстаў**
**Спрытней аўтамата.**

**Цябе — партызана —**
**Услаўляюць лясы,**
**І дзякуюць пушчы паэту,**
**За тое,**
**Што ты**
**Зрыфмаваў «паясы»,**
**Стварыў**
**Баявога «Міхеда».**

**Табе шле падзяку**
**І Нёман стары**
**За нёманскі гімн**
**Урачысты.**
**Ты к сэрцу паўвека,**
**Браток, не бяры,**
**Пішы,**
**Палымней,**
**Не здавайся — гары**
**Яшчэ так**
**Гадкоў**
**Каля трыста!**

**Уладзімір КОРБАН.**

## СУСТРЭЧА З ЧЫТАЧАМІ

Напярэдадні юбілею Анатоля Астрэйкі маладыя будаўнікі трэста № 4 запрасілі паэта ў госці. Сустрэча адбылася ў рабочым інтэр'еры.

Работнік масавай бібліятэкі Кастрычніцкага раёна сталіцы Алена Вялькевіч расказала пра творчы шлях паэта.

Муляр Тамара Абраменка, слесар Ігар Кісялёў і іншыя чытачы, віншуючы паэта, гаварылі пра папулярнасць яго вершаў сярод рабочых.

Анатоль Астрэйка расказаў пра свае творчыя планы, падзяліўся ўражаннямі ад нядаўняй паездкі на Урал, прачытаў новыя вершы.

Многія рабочыя ў час сустрэчы набылі кнігі паэта і атрымалі яго аўтограф.

**ІСПАНСКІ ТАНЕЦ.** Выконвае салістка балета беларускай эстрады Лідзія Кузняцова.

# РАДАСНАЯ ПРЭЛЮДЫЯ І СУМНЫ ФІНАЛ

НАРОДНЫЯ тэатры многа ставяць лірычных п'ес, бытавых драм і камедый з класічнай спадчыны і сучасных аўтараў. А паспрабуйце знайсці ў рэспубліцы калектыў аматараў, які працаваў бы над музычна-драматычным рэпертуарам, над пастаноўкай опер, аперэт або спектакляў, багата насычаных музыкай, песнямі і танцамі. Такога калектыву ў нас, на жаль, пакуль няма.

Сказаць, што мы збяднелі на таленавітых вакалістаў, музыкантаў і танцораў, нельга, таму што літаральна на кожным аглядзе мастацкай самадзейнасці заўсёды выступае мноства выдатных выканаўцаў з народа ва ўсіх відах і жанрах мастацтва. Аднак факт застаецца фактам: адкрыць у Беларусі хоць бы некалькі народных музычна - драматычных тэатраў да гэтага часу не ўдалося. А між іншым, рэальныя падставы для іх стварэння былі і цяпер яшчэ ёсць.




Можна прыгадаць, з якім поспехам прайшла на Дэкадзе самадзейнага мастацтва, прысвечанай 40-годдзю Беларускай ССР, лірыка-камічная опера Гулак-Артамоўскага «Запарожац за Дунаем» у пастаноўцы артыстаў-аматараў Слуцкага гарадскога Дома культуры. Гэта было сапраўдным сюрпрызам і вялікай нечаканасцю для мінчан: яны ўпершыню цалкам пачулі оперны спектакль у выкананні не прафесіяналаў, а ўдзельнікаў самадзейнасці. У ім было занята 120 чалавек — салісты, хор, малы сімфанічны аркестр і танцоры. Самадзейныя артысты, дзякуючы творчым намаганням былога мастацкага кіраўніка Дома культуры Ул. Жлукценкі, ігралі і пелі ў спектаклі проста, стрымана і шчыра.

Вядома, не ўсе выканаўцы роляў валодалі прыгожымі, роўнымі па гучанню галасамі і свабодна трымаліся на сцэне, не зусім задавальняў і падбор музыкантаў у аркестры. Але гледачам спектакль спадабаўся. Ды інакш і не магло быць, бо ў рэспубліцы гэта была першая спроба пастаноўкі опернага твора на самадзейнай сцэне. Думалася, што аматарскія калектывы Слуцкага Дома культуры прадоўжаць добрае пачынанне і парадуюць у будучым больш дасканалымі з мастацкага боку музычнымі спектаклямі. А ці так атрымалася на самай справе?..

Ад самадзейнай трупы, якая ўдзельнічала ў паказе ўкраінскай оперы, засталіся лічаныя адзінкі. Пры Доме культуры раней існаваў тэатральны калектыў, якому прысвоілі ў канцы мінулага года званне Народнага тэатра. Але Народны тэатр і той калектыў, які ў свой час ставіў «Запарожца за Дунаем», — вельмі далёкія «сваякі», амаль не звязаныя паміж сабой. Опера была пастаўлена без непасрэднага ўдзелу ў ёй Народнага тэатра.

І толькі ў мінулым годзе Народны тэатр узяў ініцыятыву ў свае рукі і ажыццявіў пастаноўку п'есы І. Козела «Папараць-кветка», пабудаванай на беларускім фальклорным матэрыяле і вельмі блізкай да музычнага спектакля (рэжысёр К. Лужанская). Гэта дазволіла прыцягнуць да ўдзелу ў новай пастаноўцы хор, аркестр і танцавальную групу. Сфера дзеяння Народнага тэатра значна пашырылася. Яго работу па вартасці ацаніла раённая і сталічная грамадскасць.

Усе разлічвалі на тое, што музычна-драматычны жанр прыжывецца ў Слуцку. Напэўна, так яно і было б, калі б не адбылася змена кіраўнікоў Дома культуры.

Справа ў тым, што былы хармайстар І. Лабанаў большую ўвагу пачаў аддаваць педагагічнай працы ў Слуцкай і Прускай музычных школах, а з харавой самадзейнасцю займаўся мала. Ул. Жлукценка, будучы мастацкім кіраўніком Дома культуры, таксама выкладаў у той жа Слуцкай школе. Гарвыканком вырашыў пазбавіцца ад сумяшчальнікаў, і хутка ўжо не было каму кіраваць самадзейнымі гурткамі.

Цяпер няма тут хармайстра, піяністкі, кіраўніка вакальнага гуртка. З жаночым харавым ансамблем у 14 чалавек (усё што засталося ад чатырохгалоснага хору!) праводзіць рэпетыцыі... кларнетыст В. Сотнікаў, а з салістамі — баяніст без музычнай адукацыі Л. Царык. Таму не дзіўна, што за апошні час адбыўся значны адсеў сярод удзельнікаў гарадской самадзейнасці.

Яшчэ ўтрымліваюць свой прэстыж і добрую рэпутацыю танцавальны калектыў і Народны тэатр. Яны працуюць з поўнай аддачай сіл, і вакол іх па-ранейшаму групуецца здольная моладзь. Вопытны рэжысёр К. Лужанская здолела сёлета паставіць з артыстамі-аматарамі даволі складаны спектакль «Твой светлы шлях» па п'есе А. Маўзона і днямі выпусціла новую прэм'еру «Блудны сын».

Нас толькі бянтэжыць тая акалічнасць, што калектыў Народнага тэатра, які ўдала пачаў свой шлях паказам музычна-драматычнага спектакля «Папараць-кветка» і тым самым нібы заявіў аб сваім творчым крэда, раптам здрадзіў першапачатковым мастацкім задумам і пайшоў па лініі найменшага супраціўлення. Бо пастаноўка даўно заігранай, дэтэктыўнай п'есы «Блудны сын» далёка не вызначае аблічча Слуцкага тэатра і не садзейнічае глыбокаму раскрыццю акцёрскіх індывідуальнасцей.

Рэжысёр К. Лужанская растлумачыла, што «Блуднага сына» іх калектыў рыхтаваў паралельна з п'есай А. Маўзона і рыхтаваў як «касавы» спектакль для выездаў з ім на вёскі і ў іншыя раёны вобласці. А гэта наогул, нам здаецца, няправільна. Па-першае, наўрад ці неабходна пастаноўка самадзейнасцю паралельных спектакляў, таму што яна толькі распыляе сілы артыстаў-аматараў і значна тармозіць іх работу над асноўным рэпертуарам. Пра гэта, у прыватнасці, ужо гаварыў у сваім артыкуле рэжысёр Пінскага тэатра І. Сакольскі, спасылаючыся на сваю ўласную практыку. І па-другое, задача любога народнага тэатра—несці ў масы высокамастацкія творы, заўсёды вучыць і выхоўваць сельскага гледача, а не падпарадкоўваць сваю дзейнасць «касавым» інтарэсам.

— Ці збіраецца ваш калектыў у далейшым зноў звярнуцца да музычна-драматычнага рэпертуару? — запыталіся мы ў К. Лужанскай.

— Я б ахвотна ўзялася ставіць музычную п'есу, нават якую-небудзь савецкую аперэту,—адказала рэжысёр.—Але з-за адсутнасці ў нас музыканта-спецыяліста пра гэта пакуль што няма чаго думаць.

Так, яна мае рацыю: Дому культуры тэрмінова патрэбен кваліфікаваны музыкант, які ўмее працаваць з аркестрам і хорам, неабходны таксама вопытны канцэртмайстар для заняткаў з вакалістамі, якіх у Слуцку можна знайсці вельмі многа.

Загадчык раённага аддзела культуры Ул. Пасько (дарэчы, адзін з вядучых выканаўцаў у оперы «Запарожац за Дунаем») неяк выказаў адну добрую думку:

— Калі б нам удалося сабраць і згуртаваць усе сілы вакальнай і музычнай самадзейнасці, якія ёсць у горадзе, мы напэўна здолелі б не адну оперу паставіць...

Што ж вам, тав. Пасько, перашкаджае ажыццявіць на справе сваю ідэю, дамагчыся масавага ўдзелу мясцовых талентаў у гарадской самадзейнасці? Чаму, скажам, не звярнуцца за дапамогаю да дырыжораў і артыстаў Беларускага тэатра оперы і балета? Няхай хто-небудзь з іх прыедзе ў раённы цэнтр і пазаймаецца з салістамі-аматарамі Л. Фядзяшынай, І. Галубцовым, М. Падлужнай, прарэпеціруе з мясцовым аркестрам.

Пра будучыню Слуцкага народнага тэатра ніхто сур'ёзна не задумваўся. У якім напрамку павінна развівацца яго творчая дзейнасць? Як нам здаецца, яму бліжэй за ўсё жанр сінтэтычнага спектакля, дзе слова, музыка і танец непарыўна звязаны паміж сабою і арганічна ўваходзяць у драматургічную тканіну твора. Гэты жанр дазваляе ўцягнуць у працу шырокі круг аматараў. Магчыма, час ад часу калектыву варта звяртацца да драматычных п'ес, але галоўнае месца ў яго рэпертуары павінны заняць сінтэтычныя спектаклі. Стварыць народны музычна-драматычны тэатр ёсць магчымасць не толькі ў Слуцку, але і ў Рэчыцы, Барысаве.

Традыцыі нашага музычна-сцэнічнага мастацтва бяруць свой пачатак яшчэ з часоў дзейнасці тэатральнай трупы Ігната Буйніцкага і Вандроўнага тэатра Ул. Галубка. Дастаткова сказаць, што гэтыя вядомыя дзеячы беларускай культуры, ствараючы свае калектывы таксама са звычайных аматараў, пры падборы артыстаў арыентаваліся галоўным чынам на тых, хто не толькі валодаў драматычным талентам, але і ўмеў добра спяваць і танцаваць. Чаму б і нашым некаторым народным тэатрам у рэспубліцы не паследаваць гэтаму прыкладу ў камплектаванні творчых труп рознабакова таленавітымі людзьмі, якія любяць мастацкае слова і музыку? Тады жанр нацыянальнага сінтэтычнага спектакля зойме належнае месца на самадзейнай сцэне.

**Г. ЗАГАРОДНІ,**
**спецыяльны карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».**

**Наступным у абмеркаванні праблем развіцця народных тэатраў рэспублікі выступіць у газеце дырэктар Тэатра юнага гледача Ул. СТЭЛЬМАХ.**

